ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 36 (135) 29 верасьня - 5 кастрычніка 1995 г. Кошт 600 рублёў

КРАХ ПРАВАВОЙ ІДЭЯЛОГІІ НАМЕНКЛАТУРЫ - ст. 2.

ЯК БЫЦЦАМ ПЛЮНУЛІ Ў ТВАР - ст. 3.

ГАРАДЗЕНЦЫ Ў PEN-КЛУБЕ - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## ПРЫЗ «ПАГОНІ» ДЛЯ ЛЕПШАГА ФУТБАЛІСТА

**Упершыню за ўсю гісторыю гарадзенскага футболу газета «Пагоня» праводзіць конкурс па вызначэньню лепшага футбаліста Гарадзенчшыны 1995 года!**

У апытаньні нашай газеты возьмуць удзел журналісты, якія пішуць пра футбол для мясцовага і рэспубліканскага друку, а таксама сьпецыялісты гэтай гульні. Прэтэндэнтамі на прыз зьяўляюцца футбалісты усіх сямі клубаў нашай вобласьці, якія ўдзельнічаюць у V чэмпіянаце краіны. Удзельнікі конкурсу павінны будуць назваць прозьвішчы трох лепшых, на іх думку, гульцоў.

## УСЁ ВЫЗНАЧЫЛІ ГОРАДНЯ І ЛІДА

**Па выніках васьмі месяцаў бягучага года ў Гарадзенскай вобласьці аб'ём вытворчасьці прадукцыі застаўся фактычна на ўзроўні аналагічнага перыяду мінулага года і склаў 100,5 працэнта.**

Іхацяі гэта лепшы паказчык па краіне, асаблівых падстаў для радасьці няма, бо гэта дасягнута толькі дзякуючы Горадні і Лідзе, дзе аб'ём вытворчасьці склаў адпаведна 1118,2 і 101,2 працэнта. Найбольш пасьпяхова ў гэтых гарадах папрацавалі аб'яднаньні «Азот», «Хімвалакно», «Лакафарба», заводы электравырабаў, «Оптык» і лідзкі піўзавод.

З найгоршым вынікам спрацавала прамысловасьць Навагрудчыны, дзе аб'ём вытворчасьці склаў 49,2 працэнты да ўзроўню мінулага года.

**Д.Г.**

## ГОРАДНЯ-СУВАЛКІ. КРОК ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА

**Па запрашэньню аддзела зьнешнеэканамічных сувязяў аблвыканкаму ў Горадні некалькі дзён гасьцявала дэлегацыя дзелавых колаў з Сувальшчыны на чале з ваяводам Цэзарыем Цесьлюкоўскім.**

У сераду госьці знаёміліся з горадам, а ў чацьвер, 28 верасьня, адбыўся сумесны семінар бізнэс-колаў Горадні і Сувалак, на якім абмяркоўваліся пытаньні памежнага, гаспадарчага і культурнага супрацоўніцтва.

Вынікі семінару былі асьветленыя на прэс-канферэнцыі, на якой прысутнічалі карэспандэнты гарадзенскіх і рэспубліканскіх газет.

**В.МАЛЬСКІ.**

## СЕСІЯ ПАЧАЛАСЯ З КРЫМІНАЛЬНАЙ ХРОНІКІ

**Учора пачалася сесія абласнога Савету народных дэпутатаў, у першым дні працы якой прынялі 134 са 192 дэпутатаў.**

Праца сесіі распачалася з выступу намесьніка ўпраўленьня ўнутраных спраў аблвыканкаму спадара Анатоля Белашэўскага, даклад якога тычыўся стану работы па ахове грамадзкага парадку і барацьбе са злачыннасьцю ў вобласьці. Лічбы, прыведзеныя ў выступе, сьведчаць, што крымінальнае становішча на Гарадзеншчыне працягвае пагаршацца. За восем месяцаў гэтага года зафіксавана 1338 цяжкіх злачынстваў, што на 10% больш, чым за такі ж перыяд у мінулым годзе. Толькі 7 з 10 такіх здарэньняў удаецца раскрыць. Большую палову ўсіх злачынстваў складаюць крадзяжы, асабліва кватэрныя.

Сітуацыя пагаршаецца і з-за слабой матэрыяльна-тэхнічнай базы міліцыі, якая, напрыклад, ужо ў наступным годзе можа застацца без тэлефоннай сувязі. Каля 20% супрацоўнікаў міліцыі маюць працоўны стаж менш аднаго года. На 8 гарадзкіх медвыцьвярэзьнікаў прыходзіцца ўсяго адна дзяжурная машына. Кепска складаюцца справы і з дысцыплінай сярод міліцыянтаў. Ужо ў гэтым годзе 273 чалавекі былі прыцягнуты да адміністрацыйнай і 16 чалавек - да крымінальнай адказнасьці. 41 міліцыянт звольнены з працы.

Дэпутатам сесіі прапанавана разгледзець пытаньне аб выдзяленьні сродкаў для набыцьця неабходнага тэхнічнага абсталяваньня, аб утрыманьні неабходнай колькасьці супрацоўнікаў участкаў міліцыі, грамадзкай бясьпекі за кошт мясцовага бюджэту, гаспадарак і прадпрыемстваў, аб мэтазгоднасьці працы камерцыйных кіёскаў і г.д.

**Вітаўт РУДНІК.**

## БУДАЎНІЦТВА НОВАГА ГМАХУ ПРЭЗІДЭНЦКАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ ФІНАНСУЕ «ПРЫОР-БАНК»

«Пагоня» нядаўна паведамляла, што служба кантролю пры адміністрацыі прэзідэнта атрымала двухпавярховы будынак на тэрыторыі былога каралеўскага замку. Пад час знаходжаньня у гэтай камяніцы «Прыор-банка» ізнос будынка дасягнуў 73%. Цалкам разбурылася каналізацыя. У выніку, па патрабаваньню новых гаспадароў, рэстаўрацыю будынку аплочваюць банкіры.

**В.М.**

## КОТ І ЛЕЎ ДЭМАНСТРУЮЦЬ МОДУ

З 30 верасьня па 7 кастрычніка ў Новым замку пройдзе першы камерцыйны фестываль незалежных творчых арганізацый і аўтараў «Эўрастыль - 95», на якім вядучыя гарадзенскія вытворцы моднай вопраткі, прафісійныя куцюр'е, дызайнеры і мадэльеры прадставяць гарадзенцам узоры сваёй працы. Фестываль падрыхтавалі ТАА «Цэнтр сучаснага стылю Кот і Леў».

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**

## АДКРЫТЫ ЛІСТ

*Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Лукашенку*

*Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь М.Грыбу*

Мы, жыхары г.Гродна, падаем голас пратэсту супраць дыскрымінацыі. Нашым дзецям, якія пайшлі ў першы клас, не даюць магчымасьці вучыцца на беларускай мове. Гэта робіцца ў парушэньне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, палажэньняў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека пра тое, што, «бацькі маюць права выбару мовы адукацыі для сваіх малалетніх дзяцей».

У большай частцы школ горада, класы, у якіх у мінулым годзе выкладаньне вялося на беларускай мове, пераводзяцца на рускую мову. Гэтая акцыя суправаджаецца абразамі нашай роднай мовы, пагрозамі ў адрас тых, хто выступае за навучаньне ў сярэдняй і вышэйшай школах на беларускай мове, хто хоча ня даць загінуць роднаму слову.

Такой ганьбы ўлады над беларускай мовай, над нашымі нацыянальнымі пачуцьцямі яшчэ ніколі не было. Нам сорамна за нашу дзяржаву, напэўна адну такую ў свеце, якая па-сутнасці пайшла на зьнішчэньне багацейшых са славянскіх моваў.

Нас клапоціць і тое, што першыя рускамоўныя класы пачалі вучыцца без буквароў.

Хочам сказаць усім бацькам, якія пад націскам чыноўнікаў і па свайму неразуменьню адмаўляюцца ад роднай мовы: як не бывае двух маці, так і двух родных моў не бывае.

Трэба ўсім беларусам помніць словы Ядвігіна Ш.: «Родная мова - гэта кроў народа: пакуль жыве яна - жыве народ. Як бы яе ні называлі, яна найперш - сьвятыня, адрачэньне ад ад якой роўнае здрадзе».

Шаноўны спадар прэзідэнт! Шаноўны спадар старшыня! Мы просім Вас пасрыяць адкрыцьцю ў школах нумар 10 і нумар 19 г.Гродна па аднаму першаму класу з беларускай мовай навучаньня.

**М.А.Хвашчынскі - урач, СШ N 2, 2«в»**
**В.Б.Хвашчынская - інжынер, СШ N 19, 1 «г»**
**Е.С.Тарас - медсястра, СШ N 19, 1 «г»**
**Е.Н. Варэйка - інжынер-будаўнік, СШ N 19, 1 «а»**
**Н.М.Махнач - хатняя гаспадыня, СШ N 19, 1 «а»**
**В.Я.Старавойтаў - зам.сектара ПНМА, N19, 1«в»**
**С.І. Дзяшкевіч - электрагазазваршчык, СШ N 19, 1«в»**
**Л.Я.Юшкевіч - настаўніца музыкі, СШ N 2, 1 «а»**

## ЧАРГОВЫ КРОК У ПАВЫШЭНЬНІ ЎЗРОЎНЯ АДУКАЦЫІ

**Прэзідэнт нас вучыць, што на сьвеце ёсьць толькі дзьве мовы, здольныя выявіць усю высакароднасьць шляхетных думак. Гэта ангельская і расейская мовы. І няхай мне асабіста крыўдна за кітайцаў, супраць аб'ектыўнай рэальнасьці, дадзенай прэзідэнту ў адчуваньнях, не папрэш. У дадатак, прэзідэнт дапамог мне разабрацца ў сваёй падсьвядомасьці. Бо ўсе гады беларусізацыі я міжволі лавіў сябе на ўсялякіх нізкіх і нават ганебных думках; пра што не падумаю - усюль альбо сэкс, альбо выпіўка, альбо зьвярыная нянавісьць да ўсяго добрага і сьветлага, што было за часамі эсэсэру. Я ўжо падумаў было, што пайшоў на папраўку, бо расейскую мову ведаю нават лепей за Яго Вялікасьць, дый на ангельскай магу; аднак усё-такі як моцна ўеўся ў арганізм гэты быдлячы ген!**

Адным словам, справа была такою. Вялікая колькасьць бацькоў вучняў сярэдняй школы N 22 выказалі жаданьне пазбавіць сваіх дзетак хамскага ўплыву беларускай мовы. Тут патрэбна сказаць, што ў гэтай школе ангельскай мовы не вывучаюць, а вывучаюць нямецкую, і я магу ўявіць, чым забіты галовы бедных дзетак пры такім раскладзе вучэбных праграм. Сказана - і зроблена. Зрабіць было няцяжка, таму што ўзгаданая школа заўсёды была слынна сваёй палітычнай воляй. Былі, праўда, некаторыя, якіх не кранууўся яшчэ сьвет вучэньня Аляксандра Рыгоравіча. Канешне, у гэтым сьвеце яны выглядаюць вельмі непрывабна, можна нават без перабольшваньня сказаць - антысацыяльна. Аднак у нас - дэмакратыя. І ім проста параілі пайсьці куды-небудзь далей, ну, натуральна, пашукаць самастойна адстойнік беларушчыны. Само сабой зразумела, што нічога ў іх не атрымалася, і яны ўласнымі рукамі напісалі адпаведныя заявы. Вось так і трэба абыходзіцца з тымі, хто ня хоча ўздымаць угору свае думкі: цьвёрда і бяз гвалту.

Вялікі Вам дзякуй, паважаныя воргаyы народнай адукацыі! Непакоіць толькі адно: вось гэты самы подлы быдлячы ген. Бо вучні будуць працягваць адукацыю па-руску, аднак па беларускіх падручніках. Колькі можна цярпець? Паважаны ўрад, зрабіце, нарэшце, для падрастаючага пакаленьня наступны крок, а гісторыя і нашчадкі Вас не забудуць.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## КАЛІ Ў БЕЛАРУСІ БУДЗЕ ПАБУДАВАНАЯ ХОЦЬ АДНА БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА?

**24 верасьня адбылося асьвячэньне вуглавога камня пад пабудову школы з польскай мовай навучаньня.**

Урачыстасьць сабрала шмат высокіх гасьцей з Польшчы: у Горадню адмыслова прыехалі пасол суседняй дзяржавы ў Беларусі Эльжбета Смулэк, старшыня таварыства «Вспульнота Польска» прафесар Анджэй Стэльмахоўскі, віцэ-міністр адукацыі Польшчы Данута Грабоўска. Прысутнічаў на асьвячэньні і генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Горадні Марыюш Машкевіч.

Першая на Беларусі школа будуецца на грошы «Вспульноты». За права будаваць школу спаборнічалі 5 польскіх і некалькі гарадзенскіх фірмаў. Пераможцам у конкурсе стаў гарадзенскі будаўнічы трэст N 30, які да першага верасьня 1996 года абавязаны ўзьвесьці першую чаргу аб'екта, які знаходзіцца ў мікраёне Дзевятоўка.

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**



ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## АДКРЫТЫ ЛІСТ У АМБАСАДУ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ

**Дэмакратычная арганізацыя ветэранаў Беларусі накіравала ў амбасаду ЗША адкрыты ліст з нагоды сумнавядомых падзей са зьнішчэньнем спартовага паветранага шара беларускімі ваякамі і гібелі двух грамадзян ЗША.**

*ПАСОЛЬСТВА ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ АМЕРЫКІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ*

Мы, ветэраны вайны і працы, людзі пэнсыйнага ўзросту, якія трымаюцца ідэі дэмакратызацыі, умацаваньня незалежнасьці і нейтралітэту Рэспублікі Беларусь, глыбока ўзрушаны тым, што адбылося ў небе нашай Бацькаўшчыны. У мірны час загінулі два ні ў чым не вінаватыя грамадзяне Злучаных Штатаў Амерыкі. Інакш, як трагедыяй, гэта не назавеш! Тыя з нас, хто ўдзельнічаў у вайне, ведаюць, як нялёгка ўзьнімаць зброю, каб пазбавіць жыцьця падобнага да сябе, нават калі ён у варожай форме. А тут... Не хапае слоў, каб выказаць наш боль і смутак. Гэта магло здарыцца толькі ў выніку таго, што тыя, хто камандуе войскамі на тэрыторыі Беларусі, жывуць і кіруюцца ранейшымі савецка-бальшавіцкімі ўяўленьнямі аб узаемаадносінах паміж краінамі і народамі, аб патрыятызме.

Мы сурова асуджаем вінаватых у трагедыі. Іх учынак - злачынства, якое супярэчыць хрысьціянскай і агульначалавечай маралі. Забойства ня можа заставацца непакараным!

Выказваем глыбокае спачуваньне родным і блізкім загінуўшых, а таксама іх суайчыньнікам.

21 верасьня 1995 года, г.Менск.

**Артур ВОЛЬСКІ, Людміла СЕВАСЬЦЯНЧЫК, Ідэя БАРЦЕНЕВА, Зоя СЯРОВА, Іван КРАСЬНІКАЎ, Ліна МАСАЛКОВА, Вольга ЗАБАВОКАЯ, Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, Фелікс КУЧАР, Аляксандр КАРЫЗНА (усяго больш 50 подпісаў).**

## У МУС ЧАКАЕЦЦА КАДРАВАЯ ПАДМОГА З АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА

У бліжэйшы час чакаецца адстаўка міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі, які выказаў сваю нязгоду з рашэньнем прэзідэнта пазбавіць супрацоўнікаў міліцыі сацыяльных ільгот. На пост міністра ўнутраных спраў прэтэндуюць некалькі кандыдатур. На днях Савет бясьпекі запатрабаваў у кіраўніцтва МУС скласьці даведку на былых супрацоўнікаў гэтага Міністэрства Міхаіла Сазонава і Юрыя Малумава. Нагадаем, што спадар Сазонаў зараз займае пасаду першага намесьніка главы адміністрацыі прэзідэнта, а спадар Малумаў зьяўляецца начальнікам упраўленьня кадравай палітыкі адміністрацыі. Абодва яны вельмі блізкія да Аляксандра Лукашэнкі яшчэ з часоў работы антыкарупцыйнай камісіі. Ня выключана, што прэзідэнт вырашыў умацаваць свае пазіцыі ў МУС, і Міхаіл Сазонаў узначаліць Міністэрства унутраных справаў, а Юры Малумаў стане адным з намесьнікаў міністра.

## У РЭСПУБЛІЦЫ, МАГЧЫМА, ПАВЯЛІЧЫЦЦА КОЛЬКАСЬЦЬ УНУТРАНЫХ ВОЙСКАЎ

З колаў, блізкіх да Міністэрства абароны, стала вядома, што 14 верасьня павінна была адбыцца рабочая паездка прэзідэнта ў вайсковы гарнізон у Мар'інай Горцы. Аляксандр Лукашэнка зьбіраўся наведаць раскватэраваную там брыгаду сьпецыяльнага прызначэньня, пазнаёміцца з бытам і ступеньню падрыхтоўкі «спецназовцев». Неадбыўшайся, з нагоды візіта прэзідэнта ў Маскву, Сочы і Кіеў, паездцы папярэднічаў разгляд пытаньня аб павелічэньні колькасьці ўнутраных войскаў МУС Беларусі. Плануецца стварэньне корпуса ўнутраных войскаў з дадатковым раскватэраваньнем адной брыгады і перападначальваньнем Мар'інагорскай брыгады «спецназу» камандуючаму гэтымі войскамі генералу Валяньціну Аголыцу. Пры абмеркаваньні кандыдатуры на пост каманьдзіра корпуса называецца імя былога каманьдзіра 6-й механізаванай брыгады палкоўніка Чачко, які ў жніўні падаў рапарт аб адстаўцы.

**СІМ**

## КАЛІ АБУДЗІЦЦА АЙЧЫНА?

**Мінулай ноччу мне прыбачыўся сон. Я заўважыў неверагоднае у маёй роднай Беларусі: ўсе прадпрыемствы няспынна працавалі, усе кіраўнікі няспынна плацілі падаткі, якія істотна не ўплывалі на агульны прыбытак. Кавярні, рэстараны і кіназалы былі штодня перапоўнены. Ніхто не заклікаў маю вольную дзяржаву ўступаць у Саюз Сусьветнага Раздольля, ні ў Супольнасьць Свабодных Рабаўладальнікаў. Кожны суайчыньнік жыў і працаваў як жадаў. Звычайных беларускіх працаўнікоў з павагай сустракалі Канарскія астравы...**

І раптам адбылося, бадай самае страшнае, што толькі магло здарыцца ў гэтым жыцьці: я прачнуўся. Жонка пакавала праверанныя ноччу сшыткі, дачка-першакласьніца з баязьлівай надзеяй пытала, ці здолею я сёньня купіць ёй жуйку. Па вуліцы крочылі такія ж, як і я, разгубленыя працаўнікі і бадай кожны маўкліва (!!!) разважаў: як выжыць за дзяржаўны заробак?..

Што ж бачыў я ноччу? Чарговую ўтопію? Фантастычную мрою? Ці ўсё ж звычайную мару, да якой павінен, як заўжды, цэлае жыцьцё імкнуцца кожны? Вуліца маўчала, як і мае спадарожнікі, а падсьвядомасць настойліва распытвала: калі ж абудзіцца Айчына?

**Пятро СЯМІНСКІ.**

## КРАХ ПРАВАВОЙ ІДЭЯЛОГІІ НАМЕНКЛАТУРЫ,

### АЛЬБО ЧАМУ АДНЫЯ ЧЫНОЎНІКІ ЗАКОН ШАНУЮЦЬ, А ДРУГІЯ ЗАКОНАМ ГРЭБУЮЦЬ

**Цяжка жыць без гумовай дубінкі. Чаму так? Прагматызм, браток, прагматызм. Крах законнасьці ў краіне - зьява наколькі адмоўная, настолькі чаканая і аб'ектыўна заканамерная. У агульным кантэксьце гэта выглядае такім чынам: крызіс сацыялістычнай дзяржаўнасьці прывёў да разбурэньня ўсіх інстытутаў грамадзкага ўладкаваньня. А паколькі права і законнасьць - ці ня самыя галоўныя з іх, то яны першымі і разбураюцца. У гістарычным ракурсе тое самае выглядае гэтак : пры камуністах законнасьці ва ўласным сэнсе гэтага слова не існавала ўвогуле; была на пачатку мэтазгоднасьць, потым законнасьць рэвалюцыйная, потым сацыялістычная, а ў цэлым закон дзейнічаў толькі тады, калі гэта было на карысьць уладзе. Гэта значыць, што крызіс законнасьці пры сацыялізме быў пастаянным, ці перманентным. Таму час перамен, як гаворыцца, непазьбежна паставіў гэтую праблему перад грамадзтвам.**

Само сабою, не засталіся ўбаку кіруючыя колы. Менавіта яны першымі адчулі небясьпеку поўнага разбурэньня рэжыму хай скалечанай, але законнасьці. Каб запанаваць над падзеямі, наменклатура пачала праводзіць рэформы ў праваахоўных органах і адначасова перапрацоўваць заканадаўчую базу, праводзіць яе ў адпаведнасьць з новымі рэальнасьцямі жыцьця. У гэты працэс плаўна ўпісаўся развал СССР, які прайшоў практычна бездакорна з юрыдычнага пункта гледжаньня. Беларуская наменклатура хутка адчула смак незалежнасьці, сэнс якой яна ўбачыла ў тым, што справа ратаваньня сваіх прывілеяў пачала залежаць ад рук самой беларускай наменклатуры. І хаця ў кожнага наменклатуршчыка закон выклікаў пачуцьцё недарэчнай дробязі, аднак яны разумелі галоўны сэнс закона: без закона немагчыма сапраўдная стабільнасьць і сапраўдная непахіснасьць іх улады. А калі так, то можна цярпець гэты закон разам з гэтымі юрыстамі. Усё роўна законы ствараюе праз сваіх дэпутатаў сама наменклатура, якія ёй на карысьць, такія і стварыць. Гэтакім парадкам і рухаліся.

І ўсё працягвалася б далей, каб не адна акалічнасьць. Выбары. Важнасьць выбараў наменклатура ацаніць ня здолела. Яна зрабіла стаўку на падачкі выбаршчыкам, у той час, як паказала далейшае разьвіцьцё падзей, у яе інтарэсах было паставіць на недапушчэньне свабоднага волевыяўленьня. Што тут было, звычайнае глупства, недаацэнка (пераацэнка), ці здрада - пакуль таямніца. Галоўнае ня ў гэтым, а ў тым, што галодны выбаршчык ва ўмовах свабоднага волевыяўленьня галасуе непрадказальна.

Як уплывае жабрацтва на законнасьць? Вядома, як. Галоднага выбаршчыкааднымі законамі ўжо не ўтаймаваць. Нізы і вярхі больш ня ў стане жыць па закону. Есьці хочацца, не падпарадкоўваецца выбаршчык, мітусіцца, зброю пралетарыяту шукае. Перад тварам такой небясьпекі наменклатура разьмежавалася, каб аб'яднацца. Тыя, хто аб'яднаўся, прынялі на сябе адказнасьць за абарону асноўных каштоўнасьцяў наменклатуры. Яны будуць за іх змагацца ў любых абставінах і любымі сродкамі. Закон для іх, і раней малацэнны, ва ўмовах баявых дзеяньняў з галодным выбаршчыкам згубіў рэшткі карысьнасьці.

Тая частка наменклатуры, якая разьмежавалася з агрэсіўным крылом, добра бачыць згубнасьць і бесперсьпектыўнасьць наменклатурнай ваяўнічасьці. З памяркоўным крылом можна, у прынцыпе, дамовіцца дэмакратычным сілам, бо бліжэйшыя мэты ў іх аднолькавыя: правесьці свабодныя выбары. Што тычыцца «мілітарыстаў», то іх палітыка відавочна - альбо браць выбары ў «яжовыя рукавіцы» альбо зрываць выбары. Вось гэты прагматызм «мілітарыстаў» прымушае іх у дасканаласьці авалодаць спецсродкам - гумовай дубінкай.

Дык што цяпер? А цяпер колькі слоў пра міліцыю. Высокародную працу робіць міліцыя, сумленныя людзі ў ёй служаць. Любы загад выканаюць, хоць законны, хоць незаконны. Толькі, відаць, ня ўсё добра ў іх гаспадарцы. Бо як інакш можна растлумачыць зьяўленьне на фасадзе будынку абласнога ўпраўленьня ўнутраных спраў, што на вуліцы Акадэмічнай, палітрукоўскага зместу транспаранту: «Законность, справедливость, гуманность». Баюся накаркаць, але, калі міліцыя згубіць сваю высакароднасьць і сумленнасьць, і пачне дзейнічаць па прынцыпу «загад юбэр аллес», то на фасадах будынкаў праваахоўных органаў можа зьявіцца надпіс «Кожнаму сваё».

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## ЦІ ВІНАВАТЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВАЙСКОЎЦЫ?

### альбо

### АРЫГІНАЛЬНАЯ ВЕРСІЯ АБ ЗАБОЙСТВЕ АМЕРЫКАНСКІХ СПАРЦМЭНАЎ...

**Чым далей адыходзяць першыя эмоцыі наконт трагедыі ў небе Беларусі, тым болей хочацца верыць, што гэта была толькі прыкрая памылка аднаго-двух-трох эксцэнтрычных вайскоўцаў.**

І ў той жа час цяжка зразумець, чаму спарцмэны спачатку атрымалі патрэбны дазвол для ўваходжаньня ў паветраную прастору рэспублікі, потым іх прымусілі спакойна над граніцай (бо былі папярэджаныя польскім бокам) і раптам, праз сотню з гакам кіламетраў, пры пралёце «паблізу дыслакацыі частак ракетных войскаў стратэгічнага прызначэньня» далі каманду на зьнішчэньне. Я асабіста ўпэўнены ў высокіх прафесійных здольнасьцях беларускіх вайскоўцаў, паважаю іх адказную службу і таму газетныя акрэсьлені здарэньня як «наўмыснае забойства» альбо «жаданьне дагадзіць Расеі любым чынам» мяне не задавальняюць. Цяжка паверыць і ў наўмыснае жаданьне вайскоўцаў «падставіць» кіраўніцтва ці ў жаданьне Прэзідэнта ці Урада Рэспублікі Беларусь «паказаць зубы» Эўропе (грамадзянства загінуўшых пілотаў выявілі потым...)

Чаму ж тады так доўга не паведамлялі ў амбасаду ЗША? Што рабілі за гэты час? І ўвогуле, нават праз 10 дзён, 23 верасьня, пасьля візіту прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Расею, Белінфарм піша: «...шэраг прычын і акалічнасьцяў... патрабуе дадатковага і глыбокага дасьледаваньня... з прыцягненьнем экспертных арганізацый ЗША і Расейскай Федэрацыі». Вось гэта нечаканасьць - пры чым тут Расейская Федэрацыя? А раптам... А можа амерыканцаў зьбіў выпадкова не беларускі верталёт, ня нашы хлопцы? Зробім толькі адно дапушчэньне: верталёт быў з расейскім экіпажам з расейскай вайсковай базы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Тады прааналізуем разьвіцьцё ўмоўнай сітуацыі: 1) беларускія вайсковыя чыноўнікі не папярэдзілі расейскіх аб пралёце паветраных шароў (бо не абавязаны юрыдычна гэта рабіць); 2) расейскі ж каманьдзір «стратэгічнай часткі» не кансультуецца з гаспадарамі тэрыторыі і дае каманду на зьнішчэньне; 3) беларускія вайскоўцы «post factum» атрымліваюць просьбу «старэйшага брата» ўзяць адказнасьць на сябе, бо апасьля абстрэлу амбасады ЗША ў Маскве нават выпадковае забойства амерыканскіх грамадзянаў расейскімі ваеннымі на тэрыторыі Беларусі зусім не на карысьць складаных адносінам між Расеяй і ЗША; 4) вайсковае і палітычнае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь «подставляет плечо старшему брату» і бярэ на сябе віну і выстаўляе фіктыўныя верталёт, пілота і дакументы аб здарэньні. Для гэтага патрэбны толькі час (вось чаму беларусы не сьпяшаюць і ня просяць прабачэньня, а толькі выказваюць шкадаваньне!)

Атрымаўшы з боку абураных прадстаўнікоў ЗША і Эўропы нават больш палітычных і маральных аплявухаў, чым чакаў Аляксандр Лукашэнка, парушаючы папярэднія планы, імчыць 19-га верасьня ў Маскву, спадзяючыся «па сьвежых сьлядах» на пэўную кампенсацыю нафтай альбо пагашэньнем часткі даўгоў. Віктару Чарнамырдзіну такая неабачлівая палітычна пасьпешнасьць не падабаецца і нічога пэўнага Аляксандр Лукашэнка не атрымлівае. Тады апошні кідаецца (абураны) да «самога» прэзідэнта Расеі і таксама атрымлівае толькі магчымасьць паскакаць на тэнісным корце. Уражаны такой неадэкватнай адплатай Расейскага кіраўніцтва за «высакародны ўчынак вайскоўцаў Беларусі» Аляксандр Лукашэнка для аблягчэньня душы залятае ў Кіеў (неспадзянка для прэзідэнта Кучмы) і з выглядам чалавека, выказаўшага свае «братские чувства» вяртацца дамоў.

А да сьледства па справе забойства спарцмэнаў падключаюць і Расейскую Федэрацыю.

Канешне, гэтая версія можа быць памылковай, але ж так ня верыцца ў непрафесіяналізм і жорсткасьць хлопцаў-беларусаў...

Хочацца верыць у іх самаахвярнасьць для старэйшага брата...

**Анатоль БРАТКЕВІЧ.**





# СУМЕЖЖА

## КРОК ДА ЭКУМЕНІЗМУ

**20-21 верасьня ў горадзе Люблін ладзіўся міжнародны навуковы сімпозіум, прымеркаваны да надыходзячых 400-х угодкаў Берасьцейскай царкоўнай Вуніі.**

Арганізатарамі і фундатарамі канферэнцыі сталі тры польскія ўстановы: Інстытут гісторыі касьцёлу, Інстытут экуменістычны і Люблінскі каталіцкі універсітэт. У мурах апошняга і праходзілі паседжаньні . Даволі прадстаўніча выглядаў склад удзельнікаў сімпозіуму: у абмеркаваньні праблемаў узялі ўдзел вядучыя даследчыкі з Украіны, Беларусі, Польшчы. Горадню рэпрэзэнтавалі чацьвёра навукоўцаў купалаўскага універсітэту.

На пачатку прысутных блаславіў Апостальскі нунцый Юзэф Кавальчык, пасьля чаго пачаліся даклады. Багата часу было адведзена на дыскусіі. Пры гэтым асаблівую пікантнасьць спрэчкам надавалі выхады на трыбуну прадстаўніка Маскоўскага патрыярхату пратаірэя Віталя Баравога (ён зьяўляецца адным з бліжэйшых дарадцаў Алексія II і адказвае за сувязі РПЦ з заходнім сьветам). Цікава, што шаноўны герарх некалькі разоў цьвердзіў, што ён адстойвае інтарэсы не Расеі, а Беларусі (?!). Выявілася, што сп.Баравы - ураджэнец нашай зямлі і атрымаў у свой час адукацыю ў Вільні.

Грунтоўнае спавешчаньне на тэму ўплываў вуніяцтва на мастацкі жывапіс выклаў Юры Хадыка. Менскі прафесар падмацаваў свае высновы цэласнай слайдавай праграмай.

Ня дзіва, што пад час дыспутаў гучалі самыя палярныя ацэнкі - ад непрыхаванай апалагетыкі Берасьцейскай вуніі, да асуджэньня падзеяў 1595-1596 г.г. Бясспрэчна адно: Вунія сапраўды пачыналася як палітычна-царкоўны рух, а працягвалася (і працягваецца!) як гістарычна абумоўлены лёс украінскага і беларускага народаў.



*Будынак Люблінскга каталіцкага універсітэту з касцёлам, у якім на другі дзень сімпозіума адбылася супольная імша для ўкраінцаў і беларусаў.*

Нягледзячы на адрозьненьні ў поглядах, шмат увагі надавалася праблемам экуменічнага руху, паразуменьня паміж канфесіямі. «Калі ня будзе дыялогу паміж Усходняй і Заходняй цэрквамі - Эўропа можа пераўтварыцца ў суцэльныя Балканы», - слушна заўважыў адзін з выступоўцаў. У гэтым сэньсе ўдзельнікі сімпозіуму былі адзінадушнымі і зрабілі свой унёсак у экуменічны працэс.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

## БЕЛАРУСЬ НЕ ПАКІДАЕ БЕЗ УВАГІ ЛАКАЛЬНЫЯ КАНФЛІКТЫ Ў СЬВЕЦЕ

Савет Бясьпекі разьбірае зараз факты ўдзелу беларускай авіякампаніі «Трансавіяэкспарт» у пастаўках узбраеньня ў Югаславію. Экіпажы самалётаў ІЛ-76, перададзеныя кампаніі з віцебскай транспартна-авіяцыйнай дывізіі ў 1993 годзе, выконваюць рэйсы па заказу французкай фірмы «Эфіс» у Скоп'е. За гэтыя палёты беларускія авіятары атрымоўваюць па паўтары тысячы долараў у месяц. Акрамя таго, ёсьць дадзеныя аб тым, што каля паўтара года экіпажы Міністэрства абароны Беларусі знаходзяцца ў Сьерра-Леонэ, дзе зараз склалася складаная ваенна-палітычная абстаноўка. У верасьні структурам КДБ Беларусі дадзена ўказаньне выяўляць асоб, жадаючых стаць наёмнікамі. А таксама прымаць меры для таго, каб не дапусьціць іх выезду ў «гарачыя кропкі».

## КАМІСІЯ ЭЎРАПЕЙСКАГА САЮЗУ ЗАНЕПАКОЕНА СІТУАЦЫЯЙ У БЕЛАРУСІ

**У Менск прыбыла дэлегацыя Эўрапейскага Саюзу на чале з намесьнікам старшыні камісіі ЭС па сувязям з краінамі СНД Клаўсам Шнайдэрам. Мэта візіту - вывучэньне палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы.**

Раніцай 25 верасьня дэлегацыя ЭС сустрэлася са старшынёй камісіі Вярхоўнага Савету па прамысловасьці Уладзімірам Новікам. Па словах спадара Новіка, у ходзе сустрэчы былі закрануты праблемы правядзеньня эканамічных рэформ у Беларусі, паўторных парламанцкіх выбараў, а таксама абмяркоўваўся факт забароны прэзідэнтам Свабоднага прафсаюзу. Уладзімір Новік заявіў, што члены камісіі ЭС выказалі занепакоенасьць сітуацыяй у Беларусі і перадалі намер Эўрапейскага Саюзу аказаць рэспубліцы дапамогу ў пераадоленьні крызісу. Аднак, паводле спадара Новіка, ЭС можа выдзяліць Беларусі 55 мільёнаў экю пры ўмове далейшага працягу эканамічных рэформ, а таксама пры наяўнасьці ў краіне рэальнай парламанцкай супрацьвагі выканаўчай уладзе.

**СІМ**

## «НАША НІВА» БУДЗЕ ЖЫЦЬ

**У Менску створаны беларускі гуманітарны фонд «Наша Ніва». Галоўная мэта ягонай дзейнасьці - спрыяць стварэньню на Беларусі незалежнай інфармацыйнай прасторы, заснаванай на дэмакратычных каштоўнасьцях. Сярод іншых мэтаў - насычэньне беларускай інфармацыйна-культурнай прасторы сусьветнай культурнай інфармацыяй, а таксама спрыяньне працэсам інтэлектуальнага і культурнага абмену.**

Фонд «Наша Ніва» зоймецца вырабам і распаўсюджваньнем у сьвеце інфармацыі пра Беларусь, а па Беларусі - пра замежжа.

Мэты, безумоўна, надзённыя. Бо сёньня нашая краіна цалкам знаходзіцца ў інфармацыйным полі Расеі. Афіцыйныя беларускія mass media аднабаковыя, а часам ня грэбуюць дэзінфармацыяй. У сьвеце мала ведаюць пра Беларусь, а беларусы даведваюцца пра сьвет пераважна праз расейскія, так бы мовіць, акуляры. Дарэчы, Фонд адмаўляецца ад удзелу у палітычных партыях і рухах.

Калі канкрэтызаваць будучую працу гуманітарнага фонду «Наша Ніва», дык у ягоным абсягу адукацыйная, выдавецкая і перакладчыцкая дзейнасьць, стымуляваньне літаратурнага працэсу. Будуць ажыцьцяўляцца праекты ў галіне інфармацыі, культуры і навукі.

Але першая задача - гэта працягнуць выпуск газеты «Наша Ніва», якая мае фінансавыя цяжкасьці. У верасьні, між іншым, плануецца выхад наступнага нумару ў павялічаным аб'ёме.

Устаноўчы сход фонду адбыўся ў нацыянальным навукова-асьветніцкім цэнтры імя Скарыны, дзе новы фонд і будзе пакуль мясьціцца.

Сярод яго заснавальнікаў вядомыя літаратары, між іншым, Уладзімір Адамчык і Уладзімір Арлоў. Прэзідэнтам абраны Сяргей Дубавец, а выканаўчым дырэктарам - Алег Дзярновіч. Усіх заснавальнікаў - 12. Яны жывуць ня толькі ў Менску, але таксама ў Вільні, Віцебску, Магілёве, Гомелі і Горадні.

Фонд «Наша Ніва» адкрыты для ўдзелу іншых грамадзянаў і арганізацый.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ.**

## АБЛАСНОЙ БІБЛІЯТЭЦЫ - 165 ГАДОЎ

**17 верасьня споўнілася 165 год з дня заснаваньня Гарадзенскай публічнай бібліятэкі, спадкаемніцай якой зьяўляецца цяперашняя абласная бібліятэка імя Я.Карскага. І, хаця гісторыя ў яе вялікая, сучасны стан бібліятэкі жадае лепшага.**

З 1992 года намецілася тэндэнцыя да зьмяншэньня паступленьняў у кніжны фонд. Так у 1993 годзе ў параўнаньні з папярэднім паступіла на 6618 экзэмпляраў выданьняў менш, у тым ліку кніг на 2936, а ў 1994 годзе - на 10436 экзэмпляраў (кніг - на 6335). Выклікана гэта недастатковым фінансаваньнем бібліятэкі, распадам цэнтралізаванага забесьпячэньня бібліятэчнага фонду літаратурай, выдадзенай у краінах бліжняга замежжа (летась у параўнаньні з 1993 годам колькасьць паступленьняў у кніжны фонд зьменшылася на 95 працэнтаў). З-за малога тыражу і нявырашанасьці пытаньня камплектаваньня бібліятэкі выданьнямі недзяржаўных выдавецтваў яны не заўсёды трапляюць у бібліятэку. Намесьнік дырэктара бібліятэкі Л.Мальцава адзначыла, што, калі краіна праз пэўны час стане на ногі, то праблемы ў камплектаваньні, якія дапускаюцца зараз, не кампенсуюцца ніколі. І можна лічыць, што чытач страціў іх назаўсёды. Практычна не набываецца літаратура забаўляльнага характару. І, хаця работнікі бібліятэкі стараліся выконваць Закон аб мовах, яна ня стала нацыянальнай. З 591630 экзэмпляраў выданьняў, якія знаходзяцца ў яе фоньдзе, толькі 45378 зьяўляюцца беларускамоўнымі.

Улічваючы, што абласная бібліятэка зьяўляецца ўніверсальнай і асноўная частка літаратуры - галіновая, вялікая колькасьць чытачоў цікавіцца выданьнямі эканамічнага, юрыдычнага характару. Не заўсёды ўдаецца задаволіць іх патрэбы, і ня толькі з-за недахопу сродкаў для яе набыцьця, але і з прычыны арыентаванасьці выдавецтваў на выпуск кніг «лёгкага жанру». Застаецца слабой матэрыяльна-тэхнічная база. Акрамя таго, бібліятэка імя Я.Карскага - адзіная ў краіне абласная бібліятэка, якая ня мае тыповага будынку і яе аддзелы знаходзяцца ў розных кутках горада, што стварае дадатковыя нязручнасьці.

Тым ня менш, абласная бібліятэка карыстаецца вялікай папулярнасьцю ў чытачоў. Штогод яе паслугамі карыстаюцца звыш 37 тысяч чалавек, якім выдаецца каля 750 тысяч выданьняў. А аддзел перыядычных выданьняў ужо на пачатак трэцяга квартала выканаў гадавы план наведваньняў. Л.Мальцава лічыць, што «зараз, як ніколі, бібліятэка патрэбна людзям, хаця б таму, што ня кожны можа за сваю зарплату набыць тыя выданьні, якія жадае».

Акрамя таго, абласная бібліятэка зьяўляецца ня толькі месцам, куды чалавек прыходзіць, каб узяць кнігу ці газету, але і культурным асяродкам. Аддзелам масавай работы і інфармацыі праводзяцца розныя мерапрыемствы: літаратурна-музычныя кампазіцыі, літаратурныя вечарыны, сустрэчы з цікавымі людзьмі, агляды літаратуры. Пры бібліятэцы ў кастрычніку мінулага года створаны клуб «Сучасьніца», які аб'ядноўвае жанчын featureрознага ўзросту; ужо адзінаццаты год дзейнічае клуб «Літаратурныя чацьвяргі», члены якога вывучаюць скарбы сусьветнай літаратуры.

**А.ДУК.**

## ТВЛ-аўскі ДЭСАНТ У ЛЕПЕЛІ

**15-17 верасьня ў невялічкім гарадку Лепель Віцебскай вобласьці праходзіў фестываль беларускай паэзіі і песьні «Лепельскія алітэрацыі-95», арганізаваны супольнымі намаганьнямі Таварыства Вольных Літаратараў (ТВЛ), лепельскага аддзелу культуры, літаб'яднаньня «Выток» і мясцовых фундатараў. Падобную імпрэзу ў 1993 годзе спрабавала зладзіць мясцовая паэтка Вера Бародзіч. Мабыць той прыватны хэпенінг на лепельскіх азёрах і быў першым крокам да больш значнай і маштабнай сёлетняй акцыі, якая набыла розгалас у літаратурна-мастацкім асяроддзі і сродках масавай інфармацыі.**

Не сакрэт, што пасьля развалу Бюро прапаганды мастацкай літаратуры пры Саюзе пісьменьнікаў Беларусі непасрэдныя кантакты чытачоў з літаратарамі, асабліва на правінцыі, перарваліся. А, дзякуючы «высокапрафесійнаму і кваліфікаванаму» ўраду ды «народнаму» прэзідэнту, пачалі зачыняцца бібліятэкі, клубы, скарачацца супрацоўнікі ўстаноў культуры. Здавалася б, у такіх жахлівых умовах застаецца адно пакласьці рукі ды паволі паміраць. Аднак айчынная культура назапасіла вялікі патэнцыял і мае яшчэ сілу для самазахаваньня й самаўзнаўленьня. Асабліва, калі ініцыятыву праяўляюць маладыя рупліўцы.

У Лепель зьехаліся літаратары амаль з усіх куткоў Беларусі. Прычым, многія творцы належаць да розных суполак і згуртаваньняў, як, напрыклад, Уладзімір Арлоў (ПЭН-цэнтр), Ірына Жарнасек і Навум Гальпяровіч (Саюз пісьменьнікаў Беларусі), Алесь Аркуш, Славамір Адамовіч, Юры Гумянюк, Ігар Сідарук (Таварыства Вольных Літаратараў) ці Сяргей Мінскевіч, Зьміцер Вішнёў, Ільля Сін (рух «Бум-бам-літ») і г.д. Гэта абсалютна не перашкаджала ім выступаць усім разам. Наадварот, у падобнай стракатасьці і рознабаковасьці адчуваецца пэўная моц і карысьць, бо здаўна вядома, што ў адзінстве - сіла. Акрамя паэтаў і празаікаў у імпрэзе прынялі ўдзел вядомыя музыкі: экс-вакаліст рок-гурта «Мроя» Лявон Вольскі і лаўрэат фестывалю «Славянскі базар» Ален. Творцы выступілі ў мясцовых школах і тэхнікуме, наведалі аграфірму «Белая Русь», зладзілі імправізаванае шоў у лепельскім Доме культуры. Шчырая публіка вельмі цёпла вітала вядомых гасьцей. Акрамя гэтага, літаратары правялі «круглы стол», прысьвечаны праблемам сучаснага літаратурнага працэсу на Беларусі.

Застаецца дадаць, што фестываль «Лепельскія алітэрацыі-95» быў своеасаблівай падрыхтоўкай да міжнароднай канферэнцыі «Літаратурны працэс: рэцыдывы посттаталітарнай маргінальнасьці», якая адбудзецца пад эгідай ТВЛ 4-5 лістапада ў Полацку.

**Людвік САРОКА.**

